


Інфармацыйны бюлетэнь

# Ахова птушак Бацькаўшчыны




Спецвыпуск 2007:

## Знішчэнне калоніі бакланаў і чапляў у заказніку “Сярэдняя Прыпяць”



## Вусце Лані - унікальны прыродны куток Беларусі

Пэўна, няма ў Беларусі арнітолага – аматара, а тым больш прафесіянала, – які б не ведаў пра “вусце Лані” – менавіта так у пэўных колах называецца адна з буйнейшых у Еўропе калоній буслападобных і веслaногіх птушак, размешчаная ў Лунінецкім раёне крыху ніжэй вусця левага прыпяцкага прытока – Лані. Калі калонія ўзнікла, зараз ніхто дакладна не скажа, але арнітолагам гэта месца вядома з сярэдзіны мінулага стагоддзя, а з 80-х гадоў яно трапіла пад асаблівую ўвагу спецыялістаў, займаўшыхся вывучэннем біялогіі шэрай чаплі – віда, які ў той час складаў аснову калоніі. Увогуле, любое каланіяльнае пасяленне – кулікоў, чапляў, чаек, стварае спрыяльныя ўмовы для гнездавання цэлага шэрагу іншых відаў – ад дробных птушак іншых атрадаў, якія адчуваюць сябе ў межах калоніі значна спакайней, да буйных драпежнікаў, якія звычайна селяцца дзесьці на ўскраіне калоніі і такім чынам цалкам вырашаюць праблему свайго харчавання.

Не з'яўляецца выключэннем у гэтым плане і калонія ў вусці Лані. Акрамя белага бусла і шэрай чаплі, колькасць якой у розныя гады вагалася ад 300 да амаль 700 пар, тут штогод гнездуецца пугач, у якасці паляўнічага палігона тэрыторыя выкарыстоўваецца арланамі-белахвостамі і чорнымі каршунамі, у канцы 90-х на калоніі абаснаваліся вялікая белая чапля і чапля-квakва, дарэчы, для апошняга віду гэта адзінае вядомае ў нашай краіне месца гнездавання; з больш дробных “чырвонакніжнікаў” у гэтым месцы рэгулярна гняздуюцца беласпінны дзяцел і белая сініца, не кажучы ўжо пра цэлы шэраг іншых, больш звычайных відаў.

Непаўторная палеская прырода, цяжкадаступнасць самой калоніі і яскравыя ўражанні ад сустрэчы з яе цудоўнымі жыхарамі зрабілі гэта месца своеасаблівай арніталагічнай Меккай – кожны з айчынных арнітолагаў лічыў сваім прафесійным абавязкам хоць раз убачыць гэтае цуда прыроды.

Без асаблівых змен і здарэнняў калонія існавала да канца 80-х гадоў, пакуль не адбылася падзея, якая ў карані змяніла спакойны і амаль што бестурботны лад жыцця чапляў і яе суседзяў. Гаворка ідзе аб з'яўленні ў калоніі яшчэ аднаго жыхара – вялікага баклана, першая рэгістрацыя якога на тэрыторыі Беларусі ў 20 стагоддзі

*Працяг на стар.2*

адбылася летам 1988 года.

Калі быць дакладным, вялікі баклан не з'яўляецца новым для фауны Беларусі – ен гнездаваўся ў нашай краіне да 19 стагоддзя, потым знік, а ў адзначаны год у рамках інтэнсіўнай экспансіі віда на паўночны ўсход з'явіўся зноў і зараз гняздуецца на ўсёй тэрторыі краіны. У момант першай рэгістрацыі, у 1988 годзе, было налічана 8 жылых гнёздаў баклана, у 1994 годзе іх стала ўжо больш за 400. На гэтай лічбе колькасць бакланаў ў калоніі стабілізавалася, але як больш прыстасаваны і агрэсіўны, чым шэрая чапля, від баклан амаль цалкам выцесніў чапляў з найбольш прыдатных для гнездавання дубоў у цэнтры калоніі на навакольныя невысокія вербы. Увогуле, нічога смяротнага не адбылося – з'яўленне новага віда істотна не адлюстравалася на колькасці і поспехе размнажэння ні чаплі ні іншых птушак, і "птушыны інтэрнат" працягваў сваё жыццё.

Што ж тычыцца гібелі дубоў, на якіх размешчаны гнезды бакланаў – аб гэтым усё часцей распавядаюць прыхільнікі "рэгулявання колькасці...", то можа яно і на самай справе так, дрэвы забруджваюцца паметам птушак, тая ж самая субстанцыя у вялікай колькасці збіраецца пад кронамі, а такая канцэнтрацыя высокаякаснага ўгнаення можа і не пайсці на карысць дрэву. А, можа, дубы ўсыхаюць і з якой іншай нагоды, спецыяльных даследванняў у гэтай галіне ніхто не праводзіў. Але ж калі птушкі і сапраўды з'яўляюцца прычынай высыхання дубоў, то згадзіцеся, дсесятак-паўтара дрэў за ўвесь час існавання калоніі – нішто ў параўнанні з той стратай, якую за той жа час нанеслі палескай прыродзе людзі сваімі неабдуманымі экалагічнымі эксперыментамі.

На вялікі жаль, менавіта з'яўленне бакланаў і вырашыла делейшы трагічны лес унікальнай калоніі. Увогуле, і шэрая чапля, і баклан адносяцца да рыбаедных птушак, а з гэтай нагоды аднесены сучасным чалавекам да так званых "непажаданых відаў". У час "першага прышэсця" бакланы на тэрыторыі нашай краіны вяліся ў колькасці прама скажам невялікай, ды і рыбгасаў у той час яшчэ ніякіх не было, так што канфліктаў паміж гэтым відам і чалавекам не узнікала. Шэрая чапля, якая у адрозненні ад баклана харчуецца на мелкаводдзях, і акрамя рыбнай дробязі ўжывае ў ежу вялікую колькасць дробных водных бесхрыбетных, нават і у наш час прыносіць рыбгасам не вельмі вялікую страту, у апалу яна трапіла хутчэй так, за кампанію з бакланам, чым з нагоды сваей вялікай шкоднасці. Але ж не будзем забягаць наперад.

Дасканала вядома, што ніводны арганізм, ніводная папуляцы альбо цэлы від у межах арэала не можа вось так запраста ўзяць, катастрафічна павялічыць сваю колькасць і заняць новыя, дагэтуль свабодныя тэрыторыі. Усе гэтыя экспансіі выклікаюць розныя экалагічныя прычыны – змена кліматычных умоў альбо ланшафтаў, павелічэнне харчовай базы і інш. Няцяжка здагадацца, што ў большай частцы гэтых зменаў прама альбо ўскосна вінаваты ніхто іншы, як чалавек. Падпарадкоўваецца гэтаму правілу і гісторыя з бакланам – глабальнае пацяпленне клімату і павелічэнне колькасці гаспадарак па штучнаму вырошчванню рыбы (тычыцца гэта ўсёй Еўропы) далі баклану магчымасць у рэкордна кароткія тэрміны распаўсюдзіцца далека на паўночны ўсход ад межаў свайго гістарычнага арэала...

Так альбо інакш, але ў хуткім часе сітуацыя з бакланам на большасці рыбгасаў краіны стала выходзіць з пад кантролю – лічыце самі, даросламу баклану штодзень патрэбна 300-400 грамаў рыбы (а гэта памеры ўжо амаль таварнага карпа), чароды бакланаў налічваюць тысячы птушак, а харчуюцца яны на сажалках з красавіка па кастрычнік. Нецяжка падлічыць, што за сезон "дзякуючы" бакланам гаспадарка губляе тоны рыбы. У краінах Заходняй Еўропы гэта праблема існуе ўжо даўно, абсалютнага сродка абароны сажалак ад бакланаў дагэтуль так і не знойдзена, а тыя цывілізаваныя меры, якія даюць на заходніх невялікіх кампактных гаспадарках адчувальныя вынікі, у нашых умовах аказаліся зусім неэфектыўнымі.

Засталося адзінае выйсце, якое напрошвалася само сабой – прамое знішчэнне птушак, альбо як гэта зараз завуалявана прынята называць, "рэгуляванне колькасці непажаданых відаў". На практыцы ж гэта выглядала наступным чынам: кіраўнік гаспадаркі, ва ўладаннях каторага было неабходна сёе-тое падрэгуляваць, па устаноўленай форме звяртаўся ў адпаведнае міністэрства і атрымліваў паперу, якая давала яму магчымасць праводзіць адстрэл "непажаданых відаў" на тэрыторыі адзначанай гаспадаркі ўвесь год, ігнаруючы тэрміны афіцыйнага палявання і "месячнікі цішыні", якія строга-настрага павінны саблюдаць усе іншыя, непрывелегіяваныя рыбаловы і паляўнічыя. Са складу мясцовых паляўнічых, часцей за ўсё супрацоўнікаў таго ж рыбгаса, скаладаліся мабільныя брыгады, якія ўвесь час знаходжання на тэрыторыі гаспадаркі мелі пры сабе стрэльбу, дастатковую колькаць набояў і адзначаную вышэй індульгенцыю за подпісам буйнога чыноўніка на ніве аховы роднай прыроды. У якасці доказа што набоі былі патрачана не марна, а менавіта у мэтах неабходнага "рэгулявання..." паляўнічы павінен быў прад'явіць кіраўніку ні многа ні мала – верхнюю частку дзюбы "непажаданай" птушкі... Калі не разглядаць маральны аспект гэтага пытання, то з кропкі погляду бухгалтэрыі усё выглядала проста цудоўна – адстраляўся, прынёс дзюбы і атрымаў матэрыяльнае заахвочванне – 15 тысяч рублёў за баклана і 5 тысяч за "меньш шкодную" чаплю. Нават рэгіянальная прэса з захапленнем асвячала гэтыя падзеі на сваіх старонках – "Як, маўляў, цудоўна, і прадуктыўнасць гаспадаркі павышаецца, і сям'я паляўнічага ў прыбытку!" На тое ж, што пад стрэлы траплялі не толькі пастаўленыя па-за законам бакланы і шэрыя чаплі, але і шматлікія качкі, лыскі і нават занесеныя ў Чырвоную кнігу белыя чаплі, бугаі, арланы, і прадстаўнікі прэсы і кіраўнікі гаспадарак сціпла не звярталі ўвагі.

Самы вялікі размах барацьба з рыбаеднымі птушкамі набыла там, дзе колькасць гэтых птушак была найбольшай – у Палессі, а дакладней, на рыбгасах "Белае", "Лахва" і "Чырвоная зорка". На вялікі жаль, унікальная калонія ў вусці Лані знаходзілася ў непасрэднай блізасці ад адзначаных гаспадарак...

*Сяргей Зуёнак*

## Обследования смешанной колонии веслоногих и аистообразных птиц, расположенной в устье реки Лань в 55 квартале Синкевичского лесничества (Лунинецкий район Брестская область).

20-22 июля 2007 года сотрудниками общественной организации "Ахова птушак Бацькаўшчыны" было проведено обследование колонии серой цапли и большого баклана, расположенной в устье реки Лань. В результате обследования было установлено, что численность гнездящихся бакланов и серых цапель по сравнению с предыдущим годом уменьшилась в 1,5-2 раза. Гнездования белого аиста а также большой белой цапли и кваквы, занесенных в Красную книгу РБ в 2007 году не отмечено.

В северо-западной части колонии обнаружены свежеспиленные (возраст спила не старше двух месяцев со дня обнаружения) деревья (дуб черешчатый и ольха черная), в кронах каждого из которых находилось в среднем по 6-7 гнезд большого баклана. Приблизительный урон, нанесенный колонии только этими действиями, оценивается в 350 погибших птенцов.

*Таблица 1. Перечень деревьев, срубленных в 84 и 88 кварталах Синкевичского лесничества*

| № | Порода | Толщина на уровне груди (см) | Примерный возраст |
|---|---|---|---|
| 1 | Дуб черешчатый | 36 | 40-50 лет |
| 2 | Дуб черешчатый | 32 | 40-50 лет |
| 3 | Дуб черешчатый | 32 | 40-50 лет |
| 4 | Ольха чёрная | 48 | |
| 5 | Ольха чёрная | 32 | |
| 6 | Ольха чёрная | 32 | |
| 7 | Ольха чёрная | 32 | |
| 8 | Ольха чёрная | 28 | |
| 9 | Ольха чёрная | 28 | |
| 10 | Ольха чёрная | 28 | |
| 11 | Ольха чёрная | 28 | |
| 12 | Ольха чёрная | 24 | |
| 13 | Ольха чёрная | 16 | |

В обследовании колонии принимали участие:
Бышнёв И.И. (ОО АПБ)
Зуёнок С. В. (ОО АПБ)
Тишечкин А.К. (Луизианский университет, США)

## Письмо АПБ в Государственную инспекцию охраны животного и растительного мира при Президенте Республики Беларусь и Министерство природных ресурсов и охраны окружающей среды

В Лунинецком районе Брестской области в пойме реки Припять в одном километре ниже впадения в нее левого притока - реки Лань, в 55 квартале Синкевичского ленсничества на территории республиканского ландшафтного заказника и Территории, важной для птиц (ТВП) «Средняя Припять» расположено одно из крупнейших в Европе колониальных поселений аистообразных и веслоногих птиц.

Существование этой колонии создает благоприятные условия для гнездования целого ряда редких видов птиц, занесенных в Красную Книгу Республики Беларусь. Помимо серой цапли и большого баклана, численность которых в разные годы колеблется от 300 до 650 и от 500 до 700 пар соответственно в пределах колонии и ее ближайших окрестностях на гнездовании отмечены большая белая цапля (до 40 пар) кваква (до 30 пар), малая выпь (около 10 пар), орлан-белохвост (1-2 пары), филин (1-2 пары), белая лазоревка (4-6 пар). Кроме того, в непосредственной близости от колонии обитает большой подорлик, относящийся к категории глобально угрожаемых видов Европы.

В июне 2007 года местные жители, являющиеся членами АПБ, посетили вышеуказанную колонию в заказнике «Средняя Припять» с целью ее ежегодного обследования. Во время этого визита на территории колонии было обнаружено не менее 40 мертвых бакланов (взрослых и молодых птиц) с отрезанными клювами, а также большое количество стреляных гильз от гладкоствольного охотничьего оружия. Помимо этого в северо-западной части колонии были найдены свежеспиленные деревья (дуб черешчатый – 3, ольха черная 10) с разоренными гнездами бакланов в количестве от 4 до 9 на каждом из деревьев. Аналогичная картина была обнаружена и на колонии цапель и бакланов, расположенной в 30 км ниже по течению Припяти в окрестностях деревни Хвоенск на территории заказника «Средняя Припять» и в непосредственной близости от границы Национального парка «Припятский». Там же, в числе прочего, также были найдены гильзы и упаковки от патронов итальянского производства.

На протяжении последних нескольких лет рыбхозы Беларуси в рамках повышения продуктивности производства ведут борьбу с рыбоядными птицами. Наиболее активно эта деятельность ведется на территории расположенного вблизи колониального поселения (Житковичский район Гомельской области) рыбхозе «Белое».

Для проверки поступившего от членов организации сообщения была организована экспедиция на колонию, расположенную в устье р. Лань, в состав которой входил также и представитель Синкевичского лесничества. Результаты проверки полностью подтвердили сообщение о порубках на территории заказника, сотрудниками Синкевичского лесничества составлен соответствующий акт. Гильзы и отстрелянных птиц ввиду сильно поднявшегося уровня воды обнаружить не удалось. Однако установлен факт утраты мест обитания ряда видов птиц, включенных в Красную книгу Республики Беларусь: кваква (единственное достоверное место обитания в стране), белая цапля, малая выпь.

Просим разобраться в сложившейся ситуации и установить правомочность действий, лиц совершивших добычу диких животных нежелательных видов в запретное для охоты время (большой баклан, серая цапля) и порубку деревьев на территории заказника «Средняя Припять».

## Ответ из Министерства природных ресурсов и охраны окружающей среды



По фактам, изложенных в ваших обращениях от 27.07. 2007 г. №157 и от 10.08. 2007 г. №172, представители территориальных органов Министерства природных ресурсов и охраны окружающей среды (Лунинецкая районная инспекция и Брестский областной комитет природных ресурсов и охраны окружающей среды), Министерства лесного хозяйства Республики Беларусь и Государственной инспекции охраны животного и растительного мира при Президенте Республики Беларусь произвели проверку с выездом на место.

В результате проверки комиссией установлен факт незаконной рубки 12 деревьев в выделе- 11 кв. 84 Синкевичского лесничества Лунинецкого лесхоза в объеме 3,72 м³ (3 дуба с диаметром у пня 12, 16 и 20 см и 9 ольхи черной). На спиленных деревьях находилось 16 гнезд бакланов. Погибших птиц и ружейных гильз возле деревьев не найдено.

Комиссией отмечено, что в местах гнездования бакланов происходит массовое усыхание деревьев, в том числе дуба черешчатого, ольхи черной и другой растительности, связанное с жизнедеятельностью колонии бакланов. Место самовольной рубки находится в труднодоступной затапливаемой заболоченной пойме р. Припять (расстояние до ближайшей автодороги около10 км по суше, около 5км по реке). По факту незаконной рубки работниками Синкевичского лесничества составлен акт от 7.07.2007 г № 1 о лесонарушении. Лица, допустившие самовольную рубку на день проверки не установлены.



Комиссия пришла к выводу, что проведенная самовольная рубка в 11 выделе 84 кв. Синкевичского лесничества не могла повлечь за собой утрату места обитания Кваквы в выделе 8 кв.84 и других птиц, занесенных в Красную Книгу Республики Беларусь (большая белая цапля, малая выпь).

*Справочно: Местом обитания кваквы являются островные леса в поймах рек, сочетающихся с густыми ивовыми зарослями, участками тростников, множеством зарастающих озер и стариц. Гнездится кваква колониально, часто с другими видами цаплевых и большим бакланом. Гнездо устраивает в высоком кустарнике или на низких деревьях.*

*Основные факторы угрозы – уменьшение площади обитания вида и ее деградация (осушение, вырубка пойменных островных лесов и кустарников естественных заболоченных пойм).*

*Поскольку территория Беларуси находиться у границ ареала вида, встречаемость кваквы в основном определяется динамикой численности вида в восточной части европейского ареала в целом.*

Пресечение нарушения норм и правил пользования лесом, осуществление незаконных рубок, уничтожение и повреждение деревьев и кустарников и т.д. являются главной обязанностью юридических лиц, ведущих лесное хозяйство на данной территории и несущих ответственность за эту территорию.

Ущерб, причиненный лесному хозяйству незаконной рубкой деревьев дуба черешчатого (3 шт.) и ольхи черной (9 шт.) рассчитанный в соответствии с Постановлением Совета Министров Республики Беларусь от 30.10. 93 г. №750 «О материальной ответственности за ущерб, причиненный лесному хозяйству» для физических лиц составляет 35 базовых величин.

По вопросу незаконной порубки деревьев Государственной инспекцией охраны животного и растительного мира при Президенте Республики Беларусь на основании акта проверки представителей вышеуказанных органов, направлено письмо в ГЛХУ «Лунинецкий лесхоз» об усилении контроля за соблюдением природоохранного законодательства на территории заказника «Средняя Припять».

В соответствии с положением о республиканском ландшафтном заказнике «Средняя Припять», утвержденным постановлением Совета Министров Республики Беларусь от 19 июля 1999 г. № 1105, на территории заказника ведение охотничьего хозяйства не запрещено.

Охотничьи угодья, где совершена незаконная порубка деревьев с находящимися на них гнездами бакланов, арендуются Коммунальным унитарным предприятием «Охотничье-рыболовное хозяйство «Лунинец» Лунинецкого районного исполнительного комитета (далее – КУП «ОРХ «Лунинец»). Последним 3 января 2007 г. в Министерстве природных ресурсов и охраны окружающей среды получено разрешение на добычу диких животных нежелательных видов в запретное для охоты время и (или) в запрещенных для охоты местах и сроком действия до 31 декабря 2007 г. Согласно предоставленной КУП «ОРХ «Лунинец» справке, на всей территории охотхозяйства, включая квартал 84 Синкевичского лесничества, разрешена охота на диких животных нежелательных видов, в том числе баклана большого и цаплю серую. За период с начала 2007 г. КУП «ОРХ «Лунинец» выдало 30 охотничьих путевок на добычу диких животных нежелательных видов. Охотничьи путевки выданы в соответствии с действующим законодательством и действительны до конца 2007 года.

Следует отметить, что в соответствии с Правилами ведения охотничьего хозяйства и охоты (далее – Правила охоты), утвержденных Указом Президента Республики Беларусь от 8 декабря 2005 г. № 580 (п.208), добыча диких животных нежелательных видов разрешается всем охотникам при любом законном нахождении в охотничьих угодьях в целях охоты.

В целях борьбы с рыбоядными птицами (большими бакланами, серыми цаплями) некоторые рыбхозы установили премирование за их отстрел. Так, в соответствии со справкой № 396 от 10.08.2007 г. РПТУП «Опытный рыбхоз «Лахва» (расположен вблизи территории заказника) выплачивает вознаграждения своим работникам: за каждого отстрелянного баклана -15000 руб., за каждую цаплю серую - 5000 руб. По мнению арендаторов рыболовных угодий, баклан наносит существенный вред рыбным запасам, влияет на состояние популяций других видов водоплавающих птиц. Наносимый ущерб не ограничивается только потерями за счет поедания рыбы и комбикормов. Рыбоядная птица является переносчиком грибковых и бактериальных заболеваний «диплостомоз, лигулез, диаграмоз и др.), что также приводит к потере массы и гибели рыбы при их заражении.

По мнению ученых Института зоологии НАН Беларуси данная проблема требует комплексного подхода и не может быть решена локальным истреблением птиц. Эффективным методом предотвращения вреда, причиняемого рыбоводству является не только отстрел птиц в местах кормежки, но и их отпугивание, а также разорение их кладок в период гнездования.

Охотничьи угодья в районе расположения деревни Хвоенск Житковичского района арендуются учреждением «Житковичская районная организационная структура» РГОО «БООР». Последнее имеет выданное Минприроды 26 февраля 2007 г разрешение на добычу диких животных нежелательных видов в запретное для охоты время и (или) в запрещенных для охоты местах. Охотхозяйством выдано 13 охотничьих путевок на добычу диких животных нежелательных видов, в том числе 11 путевок работникам ОАО ОР «Белое», которые являются членами ОО «БООР». Рыбхоз «Белое» выплачивает по 20000 рублей за добычу большого баклана и 5000 руб. за цаплю.

На ваше обращение №172 от 10.08.2007 г. о создании комиссии по проверке деятельности охотничьих бригад в рыбхозах, Минприроды сообщает. Согласно Указу Президента Республики Беларусь от 8 декабря 2005 г. № 580, единую государственную, в том числе научно-техническую, политику в области ведения охотничьего хозяйства, проводит Министерство лесного хозяйства Республики Беларусь, а государственное управление рыбохозяйственной деятельностью осуществляет Министерство сельского хозяйства и продовольствия.

Министерство природных ресурсов и охраны окружающей среды готово принять участие в работе комиссии, инициированной указанными государственными органами, по проверке соблюдения пользователями охотничьих и рыболовных угодий требований Правил охоты при организации добычи диких животных нежелательных видов.

За ненадлежащее выполнение возложенных на директора государственного природоохранного учреждения задач (осуществление охраны природных комплексов и объектов заказника, природоохранных мероприятий, обеспечивающих соблюдение установленного режима охраны и использования заказника; участие в проведении мониторинга окружающей среды; оказание содействия научным организациям в осуществлении научно-исследовательских работ и мероприятий, направленных на изучение природоохранных комплексов и объектов, на оценку и прогноз экологической обстановки и др.), Министерством природных ресурсов и охраны окружающей среды готовится представление на имя председателя Лунинецкого райисполкома о привлечении к дисциплинарной ответственности директора республиканского ландшафтного заказника «Средняя Припять» Мордухая В.В.

Первый заместитель Министра А.Н. Апацкий

# Злачынцы засталіся без пакарання



Зараз ужо немагчыма дакладна высветліць як і з чыім удзелам разгортваліся далейшыя падзеі, але факт застаеца фактам: у сярэдзіне ліпеня 2007 года ўдзельнікі экспедыцыі, арганізаванай сябрамі АПБ у дзяржаўны заказнік і ТВП “Сярэдняя Прыпяць”, паведамілі, што ў калоніі, якая тэрытарыяльна адносіцца да гэтай ААПТ (асабліва ахоўваемай прыроднай тэрыторыі) адбылася жорсткая расправа з бакланамі і чаплямі, якія ў той час якраз займаліся выкормліваннем птушанят. Удзельнікамі экспедыцыі была знойдзена вялікая колькасць стрэляных гільз з-пад паляўнічай стрэльбы 12 калібра, трупікі дарослых птушак і птушанят з адрэзанымі дзюбамі, скінутыя на зямлю гнёзды (дарэчы, каб дабрацца да іх, злачынцы спілоўвалі гнездавыя дрэвы), абсталяваную на дрэве паляўнічую схованку. На суседняй, больш сціплай па памерах, калоніі непадалёку ад вёскі Хваенск усё выглядала прыкладна так, як і ў вусці Лані, за адным толькі выключэннем – сярод гільз з-пад набояў “Байкал”, якімі карыстаюцца мясцовыя паляўнічыя, сям-там трапляліся гільзы з італьянскай маркіроўкай, былі знойдзены і пустыя італьянскія каробкі з-пад набояў...

Паўторная экспедыцыя, арганізаваная супрацоўнікамі АПБ і здымачнай групай Белвідэацэнтра ў канцы таго ж месяца, праходзіла падчас вялікага паводка – вада ў прыпяцкай пойме стаяла на красавіцкім узроўні. Не без цяжкасцяў і з дапамогай супрацоўнікаў Сінкевічскага лясніцтва ўдзельнікі дабраліся да межаў калоніі, заначавалі на невялікай сухой грыўцы, а назаўтра, дзе па пояс, а дзе і па грудзі ў вадзе дабраліся да самой калоніі. Зразумела, што асноўныя сляды злачынства былі скрыты пад вадой, але спілаваныя дрэвы адшукаць і сфатаграфаваць усе ж удалося. Па меркаванню супрацоўнікаў лясніцтва зрабіць гэта маглі толькі паляўнічыя аднаго з навакольных рыбгасаў. Забягаючы наперад, скажам, што яшчэ адной экспедыцыі, арганізаванай АПБ праз некаторы час, на гэты раз с прадстаўнікамі сталічнага тэлебачання і міжраённай прыродаахоўнай інспекцыі, удалося-такі адшукаць і гільзы і рэшткі забітых птушак, на шчасце к таму момамту ўзровень вады значна панізіўся. Па матэрыялах экпедыцыі быў сняты відэаматэрыял, які выйшаў у эфір літаральна праз некалькі дзён пасля вяртання ўдзельнікаў.

Пэўна, няма асаблівай неабходнасці пералічваць усе тэлефонныя званкі, лісты, размовы з чыноўнікамі розных узроўняў, якія вяла арганізацыя ў сувязі з гэтымі падзеямі. Вынік адзін – “адстрэл праводзіўся на законных аснаваннях, дрэвы спілавалі невядомыя”, за што сінкевічскі ляснік, каторы прашляпіў гэтае злачынства, будзе пакараны. Дарэчы, бачылі мы і самі карэньчыкі ліцэнзій на выдаваемых паляўнічым Лунінецкім органам БТПР. Для спецыялістаў у галіне заалогіі сапраўдным адкрыццём з'явілася тое, што ў шэрагу дазволеных да адстрэлу відаў у беларускай фауне акрамя вялікіх бакланаў і шэрых чапляў прысутнічаюць такія віды птушак як гусь і селезень. Да пэўных разважанняў падштурхоўвае і адказ з Мінпрыроды, у якім галоўныя прыродаахоўцы краіны спачатку выкладаюць неадукаваным заолагам асаблівасці біялогіі белай чаплі і кваквы, карыстаючыся вытрымкамі з Чырвонай кнігі, а ў астатняй частцы гэтага чатырохстароначнага дакумента цалкам апраўдваюць ганебную дзейнасць узаконеных браканьераў. Складаецца ўражанне, што ў дадзенай сітуацыі мы маем справу не з асобнымі злачынцамі, а з Яе Вялікасцю Сістэмай.

І нарэшце яшчэ адзін крок, які, мы спадзяемся, усе ж дасць магчымасць захаваць гэты унікальны прыродны помнік з усімі яго жыхарамі. Ужо падрыхтаваны і адпраўлены па інстанцыях абаронныя абавязкі на чатыры віды чырвонакніжнікаў, якія гняздуюцца ў межах калоніі: вялікая белая чапля, чапля-кваква, пугач і белая сініца. Прапануемы абаронны рэжым цалкам выключае паляванне на тэрыторыі калоніі ў гнездавы перыяд, а таксама любые дзеянні, звязаныя са змяненнем месцаў жыхарства гэтых ахоўваемых відаў.

Заказнік у заказніку? Арыгінальна! Але ж, з міру па нітцы – голаму кашуля...

*Сяргей Зуёнак*

P.S. Расправе над бакланамі у вусці Лані прысвечан таксама артыкул Віктара Куклова ў “Народнай газеце”, які даступны на сайце www.ptushki.org



## “Виртуальная”дискуссия

Расправа над колонией бакланов в устье Лани вызвала бурные “виртуальные” дебаты на интернет-пространстве Tut.by. Огромное количество людей не осталось равнодушными к проблеме варварского отношения к птицам. Вместе с тем нашлось немало таких, кто приветствует использование достаточно жёстких мер для борьбы с “нежелательными видами”. Вот только некоторые мнения участников форума

***Funki_boy:*** *“Всё это, увы, свидетельствует о низкой культуре общества. Раньше люди жили в гармонии с природой и “правила поведения” передавались из поколения в поколение. Но потом эти правила были уничтожены новой культурой, а новый порядок под названием “гуманизм”првит не был. Так и действует народ по правилу”человек проходит как хозяин”...При этом многие люди не понимают, что нельзя безоглядно уничтожать животных только потому, что это выгодно сейчас. О будущем просто не думают или вообще не думают...”*

***Slickdesato:*** *“Я думаю, раз природа создала серую цаплю или баклана, то они уже не вредные и не нежелательные”.*

***Eves:*** *“Ну постреляли бакланов, и что? Что тут плохого? Я и сам с удовольствием поучаствовал бы в этом... А если не перестрелять, то они всю рыбу сожрут, а у рыбхозников зарплаты не будет... Я себе купил недавно пневматика аникс-112 (убойная вещь, начальная скорость шарика165(!) м/с - в 2 раза больше, чем у тировой винтовки мр-512). На днях зайду в рыбхоз, узнаю, мешают ли им сейчас бакланы  А то по банкам стрелять уже не интересно...”*

***Баран:*** *“Неужели других проблем нет, как только по поводу бакланов тут изгаляться? Про людей подумайте. Бакланы сами о себе позаботятся, они не в Красной книге, не вымрут...”*

***Буратино:*** *“Я пытаюсь себе представить, что должно быть у человека в душе, который режет живым птунцам клювы и лапки для ОТЧЁТНОСТИ!! Или это просто побочный эффект “лес рубят - щепки летят”?.. Во время поездки в устье Лани я наблюдал сразу четырёх чёрных аистов - в Беларуси больше их нигде не видел Вспоминаю до сих пор! Только там видел белую цаплю и орлана-белохвоста! И всех их до кучи, под нож и пулю?”*



BirdLife INTERNATIONAL

**АПБ з`яўляецца нацыянальным партнёрам глабальнай прыродаахоўнай асацыяцыі BirdLife International**

АПБ, 2006. Інфармацыйны бюлетэнь “Ахова птушак Бацькаўшчыны”
Распаўсюджваецца бясплатна сярод сяброў АПБ
Передрук дазваляецца пры ўмове спасылкі на бюлетэнь “Ахова птушак Бацькаўшчыны”, АПБ
Галоўны рэдактар: Уладзімір Іваноўскі
Рэдакцыйная рада: Ігар Бышнёў (адказны рэдактар), Аляксандр Вінчэўскі, Сяргей Зуёнак, Віктар Фенчук, Наталля Парэчына, Руслан Шайкін
Выданне падрыхтавана пры фінансавай дапамозе RSPB, партнёра BirdLife International у Велікабрытаніі
Калі гэты нумар бюлетэня трапіў да Вас выпадкова, а Вы жадаеце атрымліваць яго рэгулярна - далучайцеся да сяброў АПБ
Калі Вы жадаеце стаць сябрам АПБ, тэлефануйце нам ці прыходзьце да нас:
г. Мінск, вул. Макаёнка 8, пак. 42.
Наш паштовы адрас: а/с 306, Мінск, 220050, Беларусь
Тэл./Факс: 017-263 06 13; E-mail: APB@tut.by